№ 55 (4102)

www.nv-online.info

19 ліпеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

СУМНЫ РЭПАРТАЖ







У самых людных месцах – ніводнага пікета.

# Ау! Дзе вы, зборшчыкі подпісаў?

*Калі б замежніку, які ўчора апынуўся ў беларускай сталіцы, сказалі, што хутка ў Беларусі адбудуцца парламенцкія выбары, ён не паверыў бы.*

Так, да рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты засталося два тыдні. Да 1 жніўня ахвочыя паўдзельнічаць у барацьбе за дэпутацкі мандат мусяць сабраць па 1000 подпісаў альбо заручыцца падтрымкай працоўнага калектыву ці партыі. Пакуль толькі Іван Шэга са Слоніма, прадстаўнік кампаніі “Гавары праўду!” Андрэй Дзмітрыеў і сябра руху “За Свабоду” – 28-гадовы фермер з Навагрудка – Вадзім Леван афіцыйна заявілі, што ўжо маюць неабходныя для ўдзелу ў парламенцкіх выбарах 1000 подпісаў. Астатнія, па логіцы, павінны дняваць і начаваць на вуліцах, каб гэтыя подпісы сабраць, бо распісвацца за патэнцыяльнага прэтэндэнта могуць толькі жыхары акругі, па якой ён збіраецца балатавацца. І што самае галоўнае – падпісант павінен мець пры сабе пашпарт. А нашы людзі не заўсёды ходзяць па горадзе з дакументамі.

…У панядзелак дождж скончыўся яшчэ да абеду, аднак пікетаў па зборы подпісаў за верагодных кандыдатаў у дэпутаты ў цэнтры Мінска я не заўважыла. Звыклыя месцы ля ЦУМа, філармоніі, кінатэатра «Кастрычнік» гэтым разам пуставалі, хаця днямі раней па абодва бакі праспекта Незалежнасці можна было ўбачыць пікеты за самых розных кандыдатаў: ад прыхільнікаў камуністаў да спявачкі Ірыны Дарафеевай.

На пляцоўцы перад Камароўскім рынкам амаль з першага дня перадвыбарнай кампаніі луналі як афіцыйны дзяржаўны, так і іншыя сцягі: пад бел-чырвона-белым сцягам збіралі подпісы за вылучэнцаў ад Аб’яднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ. Прадстаўнікі кампаніі «Гавары праўду!» не маглі вызначыцца: пікеты стаялі пад чырвона-зялёным і бел-чырвона-белым сцягамі. Але ў панядзелак днём ля Камароўкі не было нікога, акрамя рэдкіх прахожых і міліцыянераў, якія патрулююць вуліцу. Натуральна, зборшчыкі маглі схавацца ад непрацяглага дажджу пад дахам на ганку рынку ці кавярні, але і там я не ўбачыла ні стэндаў, ні людзей. Нагадаю, што ў мінулую суботу менавіта тут адбыўся супольны «мегапікет» правацэнтрысцкай кааліцыі, аб чым лідары партый і рухаў загадзя папярэдзілі журналістаў.

Раней адзін з прадстаўнікоў ініцыятыўнай групы, што збірае подпісы за кандыдата ад руху “За Свабоду” Юрася Губарэвіча ля парку Чалюскінцаў, падзяліўся сваім уражаннем ад працэсу: «Людзі вельмі пазітыўна рэагуюць на нацыянальную сімволіку, падыходзяць з цікаўнасцю, задаюць пытанні…” Аднак учора за некалькі гадзін назірання пікет ля парку Чалюскінцаў так і не з’явіўся. Нічым не адрознівалася і сітуацыя на плошчы Калініна.

Такім чынам, актыўнасць зборшчыкаў подпісаў у цэнтры горада значна знізілася, верагодна, праз дажджы і непагадзь. Прэтэндэнты на месцы ў парламенце, напэўна, думаюць, што час у іх яшчэ ёсць, і чакаюць цёплых сонечных дзянькоў. Але хаця б не спазніліся…

**Кацярына АНДРЭЕВА.**

НАДВОР’Е

## Спёка вяртаецца?

У нядзелю сіноптыкі прагназуюць на Гомельшчыне да +34°С.

А пакуль у бліжэйшыя дні чакаецца хмарнае з праясненнямі надвор’е. Уначы пераважна без ападкаў, удзень на паўднёва-ўсходняй частцы краіны пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы, у асобных раёнах чакаецца град і моцныя залевы.

Вецер будзе паўночна-ўсходні 4–9 метраў за секунду, пры навальніцах месцамі шквалістае ўзмацненне ветру да 15–20 метраў за секунду.

Тэмпература паветра ўначы складзе +9…+15°С. Удзень прагназуецца +16…+23°С. І толькі з пятніцы пацяплее, а ў выхадныя тэмпература паветра мінімальная ноччу складзе +10…+17°С, максімальная днём +23…+27°С, на Гомельшчыне да +34°С.

ОФИЦИАЛЬНО

# Вакульчик назвал сумму ущерба по делу Чижа

Сумма ущерба по уголовному делу в отношении бизнесмена Юрия Чижа составляет 238,7 миллиарда неденоминированных рублей. Об этом рассказал журналистам председатель КГБ Валерий Вакульчик по завершении своего доклада президенту Беларуси Александру Лукашенко, передает корреспондент БЕЛТА. «*Было доложено о расследовании уголовного дела в отношении Чижа. Фактически можно на сегодняшний день говорить о сумме ущерба по этому уголовному делу, которая составляет 238,7 миллиарда*», – сказал председатель КГБ.

Валерий Вакульчик рассказал об уголовном деле в отношении Владимира и Казбека Япринцевых, а также Александра Арабяна. «*Следствие по этому уголовному делу завершено. Материал находится на рассмотрении в суде*, – сказал он. – *По поводу Казбека и Арабяна здесь все достаточно понятно. Много вопросов возникает в отношении Владимира Япринцева. По сути дела, он обвиняется не в мошенничестве непосредственно, а в пособничестве в мошенничестве. Он помогал сыну решать возникающие проблемы, подписывал гарантийные письма от «Трайпла», не имея на это полномочий*».

«*Также доложено о возмещении в полном объеме ущерба без учета кратности по уголовному делу в отношении должностных лиц «Серволюкса». И компания «Консул» – здесь тоже все понятно. С точки зрения следствия объективная сторона доказана. Работа по установлению некоторых других аспектов дела продолжается. Но мы видим, что, исходя из действий проходящих по уголовным делам лиц, они предпринимают меры для возмещения ущерба с учетом кратности*», – сказал председатель КГБ.

«*Деньги по этим уголовным делам уже поступили в местные бюджеты и измеряются сотнями миллиардов рублей* (неденоминированных. – **Прим. БЕЛТА**)», – добавил Валерий Вакульчик.

АНОНС




# Новыя прыгоды Наталлі Ільініч

Якія толькі выпрабаванні не выпадаюць на гэтую жанчыну! Раней настаўніцу ад Бога нахабна выпхнулі са школы, а цяпер не паспела яна арганізаваць пікеты па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты парламента, як здарылася тое, чаго ніколі не чакала…

**(Падрабязнасці – на 2-й стар.)**

ЧУЛІ?

## Эрдаган наведае Мінск

Напрыканцы ліпеня Беларусь з візітам наведае прэзідэнт Турцыі. Пра гэта стала вядома з паведамлення Гандлёва-прамысловай палаты Беларусі.

“*У межах візіту ў Рэспубліку Беларусь прэзідэнта Турэцкай Рэспублікі Р.Т.Эрдагана ў Мінск адбудзецца Беларуска-Турэцкі бізнес-форум і кантактна-кааперацыйная біржа паміж прадстаўнікамі беларускіх і турэцкіх дзелавых колаў*”, – напісана ў паведамленні.

Прадстаўнікі палаты падкрэсліваюць, што час пачатку бізнес-форуму, а таксама склад дзелавой часткі турэцкай дэлегацыі ўдакладняюцца.

У турэцкім пасольстве ў Беларусі кажуць, што дэталі візіту і яго праграма знаходзяцца ў распрацоўцы.

ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Михаила Мамиашвили в суде не будет

*В суде Центрального района продолжается процесс по громкому уголовному делу в отношении бизнесмена Владимира Япринцева и его сына Казбека.*

Сегодня, 19 июля, ожидался допрос свидетеля Михаила Мамиашвили – олимпийского чемпиона по греко-римской борьбе, президента Федерации спортивной борьбы России. В прессе не раз упоминались его связи с криминальным миром, а также высказывалось предположение, что образовавшийся долг у Япринцева-младшего около 30 миллионов долларов предназначался лично ему. Правда, сам Мамиашвили это категорически отрицает. Также сообщалось, что Япринцев-старший отдал Мамиашвили свою долю в «Трайпле» за долги сына Казбека, якобы Мамиашвили и глава группы компаний «Трайпл» Юрий Чиж накануне ареста Япринцевых ездили в КГБ Беларуси писать заявление на Владимира Япринцева.

В общем, допрос Мамиашвили в качестве свидетеля вызывает большой интерес. Но вчера адвокат потерпевшего по делу бизнесмена Юрия Савяка заявил, что Мамиашвили не сможет прибыть в Минск на судебный процесс в ближайшие дни, поскольку идет подготовка к Олимпиаде. По словам адвоката Савяка, Мамиашвили должен встретиться с Владимиром Путиным как председатель Федерации спортивной борьбы, а потом уезжает на Олимпиаду в Рио-де-Жанейро.

Если Мамиашвили не явится в суд, будут зачитаны его показания, которые он дал в ходе предварительного следствия.

В свою очередь адвокат Япринцева заметил, что сейчас идет подготовка, а потом сама Олимпиада будет длиться две недели. Судья ответил: «Ну что ж, будем допрашивать других свидетелей», – но не уточнил, кого. Как уже сообщалось, среди 13 свидетелей, которых еще предстоит допросить в суде, – находящийся в СИЗО КГБ Юрий Чиж.

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

ВІНШУЕМ!



# Гэты незвычайны Вайцюшкевіч...

*Заўтра, 20 ліпеня, вядомы спявак адзначае сваё 45-годдзе. “Народная Воля” сабрала пяць цікавых фактаў з яго біяграфіі.*

### Выхоўваўся жанчынамі

Зміцер Вайцюшкевіч нарадзіўся 20 ліпеня 1971 года ў мястэчку Бярозаўка Лідскага раёна, якое вядома перш за ўсё шклозаводам “Нёман”. “*Мяне выхоўвалі тры жанчыны: мая бабуля, мама і мая цётка*, – згадваў Вайцюшкевіч. – *Бабулі і мамы ўжо няма, а цётка Маруся, дай ёй Бог здароўя, жывая. Яны на мяне кожная па-свойму паўплывалі*”.

Праўда, спявак не лічыць сябе ідэальным сынам. “*З мамай недагаварыў*, – казаў ён у адным з інтэрв’ю. – *Але гэта асноўная гісторыя ва ўсіх. Усім здаецца, што мамы будуць жыць вечна. Я звычайна прыязджаў, кідаў заплечнік і ішоў да сяброў...*”

### Прыходзіць на канцэрты… з-за куста

Вайцюшкевіч пачынаў сваю кар’еру ў гуртах «Палац» і Kriwi, удзельнічаў у такіх праектах, як «Я нарадзіўся тут» і «Святы вечар». З пачатку «нулявых» з’яўляецца лідарам гурта WZ-Orkiestra. Яго выступленні збіралі поўныя залы, але ў нейкі момант ён трапіў у няласку да чыноўнікаў. Як кажа сам Вайцюшкевіч, «*нават калі нейкая іронія і прысутнічае да таго, што адбываецца ў нас у краіне, і да формаў кіравання, то хто, як не артыст, павінен пра гэта выказвацца? Калі я і Міхалок у ролі дурняў, то мы два розныя дурненькія. Ён рэвалюцыйны, а я тонкі, далікатны*». Зрэшты, спявак імкнецца ставіцца да сітуацыі з гумарам: «*Я часам аджартоўваюся, што Саладуха прыдумаў мяне забараніць, каб не было канкурэнтаў такога ўзроўню. Я ж народны і яшчэ беларускі*».

Таму цяпер Вайцюшкевіч часта выступае па прыватных замовах. Нядаўна спявак расказваў пра адну нестандартную гісторыю. «*Будзе такая імпрэза – скажу вам пад сакрэтам – хлопец хоча зрабіць дзяўчыне прапанову, падарыць пярсцёнак. Ну а я буду ў кустах чакаць, пакуль ён падорыць, а потым выскачу з песняй*».

### Мае свой хутар

Для большасці спевакоў музыка застаецца адзінай справай і сэнсам жыцця. У Вайцюшкевіча ўсё больш гарманічна. “*Наогул, было б нядрэнна на нейкі час забараніць усіх музыкантаў. Каб яны адчулі, сваё гэта ці не сваё. І ў тым ліку папулярную беларускую музыку*”, – казаў у адным з інтэрв’ю Зміцер. Як прызнаецца Вайцюшкевіч, ён хацеў бы “*распазнаваць галасы птушак і ведаць назвы траў, якія растуць на беларускіх лугах, і іх уласцівасці*”. Але галоўная справа жыцця спевака – натуральна, акрамя музыкі – яго хутар Вайцюшкі, размешчаны ў Навагрудскім раёне.

Вайцюшкевіч з гонарам называе сябе аграэкагаспадаром, які плаціць падаткі. “*Я вярнуўся ў Вайцюшкі*, – кажа спявак. – *Туды, дзе пахаваны мае бацькі. Я вярнуўся ў якасці артыста, які праводзіць фестывалі самадзейнасці, запрашае духавыя аркестры. У нейкім сэнсе я хацеў бы паказаць, як можна жыць і не эмігрыраваць. Я хацеў бы (...) жыць там, дзе вырас. Я туды вярнуўся, і мне гэта падабаецца. Натуральна, прырода, Нёман. Раней мы не маглі прыязджаць туды без музыкі. А зараз мне падабаецца цішыня. У музыцы вельмі цяжка вызначыць ідэал і да яго прыйсці*”. Зрэшты, зусім без музыкі на хутары не абыходзіцца. Напрыклад, зусім нядаўна, 2–3 ліпеня, там прайшло “Традыцыйнае Купалле на Нёмане”.

***(Заканчэнне на 2-й стар.)***

ФИНАНСЫ ПОЮТ РОМАНСЫ

## «Белшина» снижает зарплату футболистам



Вчера во время собрания футбольного клуба «Белшина», которое проводил заместитель начальника управления образования спорта и туризма Бобруйского горисполкома **Михаил Свистунов,** было предложено снизить зарплаты футболистам из-за трудного финансового положения клуба.

Как сообщают закрытые источники, в прошлом сезоне потолок средней месячной зарплаты футболистов «Белшины» равнялся полутора тысячам долларов.

**Кирилл БУБНОВ.**

СТАЛА ВЯДОМА

## Ордэн Дружбы народаў… Генадзю Зюганаву

Яшчэ 8 чэрвеня Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні гэтым высокім ордэнам адыёзнага расійскага палітычнага дзеяча, старшыню КПРФ Г.Зюганава, а таксама дэпутатаў расійскай Дзярждумы І.Мельнікава (КПРФ) і Л.Слуцкага (ЛДПР).

У красамоўных спісах кавалераў дзяржаўнага ордэна Рэспублікі Беларусь не знаходзіцца месца для многіх выдатных айчынных дзеячаў навукі, літаратуры і культуры, якія ўсім жыццём і творчасцю служаць умацаванню ўзаемаразумення, узаемапавагі і сяброўства паміж народамі ўсяго свету. А тут – высокія ўзнагароды людзям, якія, хутчэй за ўсё, марацьбачыць Беларусь у складзе новага СССР…

